


ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

(20) 22 ліпеня 1992 г. Цана 80 кап.

# Віноўнікі жабрацкага стану людзей знаходзяцца ў парламентах, дзе большасць дэпутацкіх мейсцаў належыць былой наменклатуры КПСС

## ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАЯВА

### КАНСУЛЬТАТЫЎНАЙ РАДЫ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ ДЫ РУХАЎ МЕСТА ВІЦЕБСКА

Штодня пагаршаецца і без таго складаны палітычны й гаспадарчы стан у Рэспубліцы Беларусі і іншых краінах СНД.

Скарачаецца вытворчасць, мацнее хаос у грашова-фінансавай сістэме, абвастраюцца міжнацыянальныя канфлікты, быццам лавіна расце злачыннасць, узрастае адчайнае супраціўленне сілаў мінулага, якія не жадаюць зменаў. Апагеям правакаванага супрацьстаяння з'явіліся маскоўскія падзеі вакол тэлеасяродка «Астанкіна».

Кансультатыўная Рада дэмакратычных партый ды рухаў места Віцебска, прааналізаваўшы сітуацыю, што склалася ў рэспубліцы і ў найбліжэйшым замежжы, лічыць патрэбным заявіць наступнае:

Законадаўчымі і выканаўчымі органамі не прымаюцца і не ажыццяўляюцца рашэнні, якія змяняюць базісныя эканамічныя дачыненні, г. зн. адносіны ўласнасці. Аднак былая наменклатура КПСС здолела стварыць дзеля сябе заканадаўчую аснову, з дапамогай каторай яна кладзе ва ўласныя кішэні дый кішэні сваіх крэўных вялізныя багацці. У выніку непазбежна бяднее бальшыня народа. Падобна на тое, што тыя, хто інспіруе пагромы Астанкінскага тэлецэнтра гэтаксама аказаліся матэрыяльна «абдзеленымі».

Але ж віноўнікі жабрацкага стану людзей знаходзяцца не ў тэлецэнтрах, а ў парламентах, дзе большасць дэпутацкіх мейсцаў належыць былой наменклатуры КПСС. Яна свядома адхіляецца ад прыняцця рэфарматарскіх законаў.

Так, Вярхоўны Савет Беларусі не прымае закон аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці. Адразу ж быў адвергнуты прапанаваны апазіцыяй БНФ праект Закона аб барацьбе з карупцыяй і злачыннасцю. Няма Закона аб беспрацоўных, настойліва адмаўляецца права ўласнасці на зямлю. Не прымаюцца і іншыя найважнейшыя законы.

Чырвона-карычневыя выдатна разумеюць, што на чарговых выбарах у Вярхоўны Савет выбаршчыкі адмовяць ім у даверы. Вось і спяшаюцца яны распачаць новую грамадзянскую вайну і такім чынам захаваць уладу над народам.

Кансультатыўная Рада дэмакратычных партый ды рухаў места лічыць, што мы падыходзім да той рысы, калі ад кожнага выбаршчыка будзе залежыць, куды пойдзе наша рэспубліка:

да стварэння ўласнага незалежнага цывілізаванага гаспадарства ў еўрапейскім доме ці вернецца да будовы ілюзорнага камуністычнага грамадства з ГУЛАГам за калючым дротам і за жалезным занавесам ад усяго свету.

Давайце ўсе спрэчныя пытанні вырашаць годнымі дэмакратычнымі метадамі. З гэтае прычыны датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савета—цывілізаванае выйсце з палітычнага тупіка.

Мы працавітыя, мы ўмеем гаварыць ды дамаўляцца. Мы маем права на годнае жыццё. І няхай ідэя нацыянальнага адраджэння дапаможа нам у гэтым.

**Кансультатыўная Рада дэмакратычных партый ды рухаў места Віцебска.**

# Адкрыліся вочы, пасвятлела ў галаве

По ініцыятыве раённай суполкі БНФ адбылася сустрэча Народных дэпутатаў Рэспублікі з жыхарамі Докшыц.

У сустрэчы ўдзельнічалі З. Пазьняк, С. Панкоў, У. Новікаў, а таксама намеснік старшыні Сойма БНФ Ю. Хадыка і сакратар В. Івашкевіч.

Народны дэпутат С. Панкоў ахарактарызаваў сучаснае становішча ў Рэспубліцы, расказаў аб прычынах негатыўных з'яваў у жыцці Беларусі, падкрэсліў сувязь кіраўнікоў улады розных узроўняў паміж сабою і падтрымку імі адзін аднаго. Дайшло да таго, што дэпутаты, злоўленыя за руку за крадзеж ці махінацыю, не могуць прыцягнуцца да адказнасці, бо мяйсцовыя Саветы не даюць на гэта згоды. А дзейнічаюць яны так таму, што ўсюды, аж да самага верху, адчуваюць падтрымку. Таму і скаргі выбаршчыкаў, накіраваныя ў любыя інстанцыі, застаюцца без рэагавання. І толькі аднаго баяцца сучасныя кіраўнікі—рэферэндума. Яны ведаюць, што рэферэндум паложыць канец іхняму кіраванню.

Народны дэпутат З. Пазьняк ахарактарызаваў палітычнае становішча ў Вярхоўным Савеце, дзе перавагу ўзяла партыйна-наменклатурная большасць. Працаваць яна не здольна, затое блакіруе ўсе сур'ёзныя прапановы і па-гэтаму топчацца на мейсцы.

Падрабязна гаварыў З. Пазьняк і аб эканамічнай дзейнасці нашага ўраду, як цягнецца ў абозе за Расеяй, таму заўсёды спазняецца з прыняццём жыццёва важных рашэнняў. Затое ён стараецца запэўніць нас, што толькі з Расеяй мы зможам выжыць, а без яе прападзем, бо мы такія бедныя. Але ж, сказаў З. Пазьняк, ёсць доказы вучоных, што Беларусь мае дастаткова і прыродных выкапняў, і матэрыяльных рэсурсаў, каб існаваць самастойна. Шмат гаварыў З. Пазьняк і аб неабходнасці культурнага адраджэння беларусаў як нацыі. Без гэтага мы не зможам рухацца далей і будзем заставацца ў залежнасці ад Расеі і іншых краін.

Прафесар Ю. Хадыка расказаў аб сапраўдных мэтах і задачах Беларускага народнага фронту і аб тым брудзе, які вылівала і вылівае на БНФ камуністычная прэса.

Народны дэпутат Рэспублікі ад Докшыцкага раёна І. М. Новікаў выказаў свае адмоўныя адносіны да рэферэндуму і расказаў аб поспехах кіруемага ім калгаса «Зара камунізму».

На сустрэчы выступілі і жыхары Докшыц. Яны гаварылі аб мяйсцовых праблемах, аб сваіх асабістых бедах.

Тры гадзіны працягвалася сустрэча, і ўвесь час не аслаблялася ўвага прысутных, а іх было больш за трыста.

Выходзячы з залы, прысутныя казалі: «Добра, што прыехалі такія дэпутаты. Яны адкрылі нам вочы на многае. Ды й у галаве пасвятлела. Больш бы такіх сустрэч.»

**І. ФУРСЕВІЧ.**

Докшыцы.

*На заметку избирателям*

# ДАЖЕ НЕ ПОЖУРИЛИ ТИХОНА ИВАНОВИЧА

На днях заместитель председателя областного Совета народных депутатов Тихон Иванович Мисуно как будто бы держал ответ перед членами двух комиссий облсовета (по демократизации, гласности и правопорядку и мандатной) за тот рождественский подарок стоимостью 16822 рубля, который он преподнёс своему сыну накануне 1992 года: новенький трактор «МТЗ-80».

Т. Мисуно убеждал собравшихся, что вся его сознательная жизнь отдана партии и народу, что он тоже живой человек и ничто человеческое ему не чуждо. Сын имеет земельный надел 0,15 га.

Потом стали один за одним выступать члены комиссий. Народные избранники пытались почему-то отыскать «смягчающие» обстоятельства, дабы оправдать Мисуно. В конце концов кто-то предложил создать льготный список лиц для приобретения дефицитных товаров и вносить в этот список, разумеется, не измученных очередями женщин, пенсионеров и других рядовых граждан, а... начальников различных рангов в случае перевода их на другую работу или ухода на пенсию. Очевидно, в благодарность за то коммунистическое изобилие, которое они создавали за годы советской власти.

Данное обсуждение не удовлетворило народного депутата Ю. Лавренова. Он предложил передать материалы, связанные с действиями Т. Мисуно, на рассмотрение очередной сессии областного совета.

Тихон Иванович тут же заметил, что это повторение 1937 года, когда батька нёс ответственность за сына, а сын за отца.

Иронических улыбок у членов комиссий по поводу этого высказывания не последовало. Остались невозмутимыми их лица и после того, как заместитель председателя областного Совета высказал свои подозрения по поводу соучастия председателя комиссии по развитию науки, народного образования и культуры областного совета народных депутатов директора СШ № 40 Ю. Лавренова в преступной «группе»...

Предложение Юрия Александровича не прошло. Никто из членов комиссий не поднял за него руки. Решили ограничиться обсуждением вопроса о подаренном тракторе на заседании президиума областного Совета.

**Б. ХУДЯКОВ.**

P. S. **Состоялась встреча представителей демократических партий и движений города Витебска с начальником УВД облисполкома А. Клещёнком.**

**Алексей Филиппович пояснил, что никакой информацией о каких-то связях Ю. Лавренова с преступными группами управление внутренних дел облисполкома не располагает.**

**Алесь МАЗУР**

## Парадоксы жыцця

*Як усё ў жыцці нетрывала,*
*Нібы той павуцінкі ніць.*
*І спагаднасці, шчырасці мала,*
*Што душа ад зняверу баліць.*
*І вось я не такі ўжо храбры,*
*Асцярожны, нібы ў ледастаў...*
*Хто быў ворагам—стаў маім сябрам,*
*Хто быў сябрам—той ворагам стаў...*

І мне горка, і мне балюча
Ад такіх парадоксаў жыцця.
Толькі вось не прымаю рашуча
Ні маны, ні згрызот, ні ныцця...

Нібы Богам наканавана
Распазнаць, дзе натура, дзе грым,
Ратаваць душу ад загнаў,
Каб трывалае штосьці стварыць.

## *Свая вайсковая гісторыя*

У нас свая вайсковая гісторыя. Чужынцы ж вынішчалі памяць пра нашу славу. І ўхвалялі, шанавалі забойцаў беларусаў і іхняе волі. І ў чарговую 582 гадавіну найважнейшае старажытнае падзеі для славянства і балтаў—Грундвальскае бітвы —Віцебская рада БНФ зладзіла акцыю інфармацыйнага пратэсту супраць сучаснае назвы вуліцы Суворава. Прозвішча крывавага душыцеля незалежніцкага паўстання беларусаў не мусіць быць услаўлена на нашай зямлі—такая ідэя гэтага выступлення.

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

# Хто баіцца рэферэндуму?

На старонках газет, асабліва раённых, дасюль ідуць гарачыя спрэчкі: «Быць ці не быць рэферэндуму?» Большая частка выступленняў—супраць яго. Аргументы вядомыя: «коней на пераправе не мяняюць», «няма каго выбіраць». «Да ўлады дарвуцца дэмакраты, а камуністаў і працоўных не дапусцяць» і г. д. Пагадзіцца з тым, што гэта сапраўды—«голас народа» было б памылковым, бо пішуць аб гэтым у асноўным пенсіянеры.

Але справа нават не ў гэтым, здзіўляе другое. Тыя, хто ставяць пытанне—«быць ці не быць», пэўна не чыталі Закона аб рэферэндуме. А ў ім жа сказана: калі ініцыятыўная група выканала патрабаванні Закона, гэта значыць сабрала 350000 подпісаў, рэферэндум павінен праводзіцца. У даным выпадку сабрана больш за 400000 подпісаў аб неабходнасці правядзення рэферэндуму. Прычым умовы былі суровыя: і пашпарт патрабавалі, і прапіску, і подпіс старшыні выканкама павінен быць асабістым, а не шматлікім факсіміле, якім калісьці зацвярджалі Ганаровыя граматы даволі высокіх «камаў», ды і дасюль зацвярджаюць розныя выканкамаўскія дакументы. Патрабаванні Закона выкананы. Значыць і Закон павінен выконвацца. Бо як жа Вярхоўнаму Савету не выканаць Закон, які ён сам прыняў год назад? Што скажуць тыя 400000 (ды й не толькі яны), што падпісалі гэтае патрабаванне? Ды й міжнародную грамадскую думку сёння трэба ўлічваць.

Але чаму гэта так шмат людзей выступае супраць рэферэндуму, у тым ліку і ў Вярхоўным Савеце? Няўжо ўсе яны робяць гэта толькі з-за любові да народа? Але ж мы добра ведаем, як праходзілі выбары ў Вярхоўны Савет і хто туды трапіў. Бачылі, і не раз, як працуе Вярхоўны Савет. Хто и сапраўды працуе, хто чытае газету, хто драмае, каго й зусім не бывае. Ведаем, якія мяккія крэслы ў намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, які там буфет. А калі дадуць сюды яшчэ добрую другую зарплату і шмат розных прывілеяў, то можна зразумець, што толькі дзівак добраахвотна адмовіцца ад усяго гэтага, добра ведаючы, што ў наступны раз туды не трапіш.

Супраць рэферэндуму і дэпутаты ніжэйшых рангаў. Яны бяруць прыклад са сваіх «вышэйшых» калегаў. А паводзяць сябе шчэ горш. Ну сапраўды, дзе, у якой краіне ва ўстановах улады працуюць людзі, якіх трэба судзіць? А ў нашых Саветах такія ёсць, запытайце пра гэта Генеральнага пракурора. І судзіць іх ніяк не могуць, бо сябры іх у Саветах не даюць на гэта згоды. Такога нават пры камуністычнай уладзе не было. Тады несумленнага чалавека, хоць на пэўны час, а знімалі з пасады. А цяпер—нічога. Кіруе, дык як жа можна дабраахвотна адмовіцца ад «карыта»? Не зацікаўлены ў рэферэндуме і розныя дзялкі ад «ценевай эканомікі», сярод якіх нямала былых партакратаў! Цяпер ім самая спрыяльная пара для лоўлі рыбы ў каламутнай вадзе.

Хорам выступаюць супраць рэферэндуму і «простые труженики»—пенсіянеры. Адны з іх спадзяюцца, што сучасным дэпутатам у Вярхоўным Савеце з аб'яднання «Беларусь» удасца павярнуць кола гісторыі назад, другія проста не могуць успрымаць усё новае, што адбываецца цяпер, і іх палохае невядомая будучыня.

Шмат хто сцвярджае, што няма, маўляў, у нас і людзей, з каго можна б выбраць новы Вярхоўны Савет. Але ж сапраўды мы так збяднелыя разумам, што ва ўсёй Рэспубліцы не знойдзем сотню людзей для працы ў парламенце? І ў сучасным Вярхоўным Савеце ёсць людзі, якія і могуць, і працуюць сумленна. І сярод народа знойдуцца такія, і сярод камуністаў, і сярод дэмакратаў, і сярод беспартыйных. Бо членства ў той ці іншай партыі тут ролі не адыгрывае. Гэта толькі раней лічылася, што, калі ты камуніст, то «и ум, и честь, и совесть», хаця ўсе мы ведалі, што гэта не так. І сапраўды, хто возьмецца параўноўваць гэта наогул. Напрыклад, заслугі перад літаратурай і народам былога камуніста Ніла Гілевіча і беспартыйнага Васіля Быкава. А сярод сучаснай апазіцыі ў парламенце і наогул не можа быць людзей несумленных. Усе яны ходзяць пад пастаяннымі «праменямі» былых партакратаў і кожны іх крок кантралюецца. Іншая спраа, што ў парламенце непатрэбны ні даяркі—пеяркі, ні трактарысты-машыністы, ні ўрачы і інжынеры, ні «ганаровыя генералы». Усе яны ўжо былі і іх кіраванне мы добра ведаем. Нам у парламенце патрэбны спецыялісты. І такія знойдуцца.

Таму і не трэба нас палохаць рэферэндумам. І рэферэндум патрэбен, і змены ў Вярхоўным Савеце (ды і ў «ніжэйшых» Саветах) неабходны. Без іх мы будзем таптацца на месцы, а магчыма і спаўзаць у балота.

**І. ФУРСЕВІЧ.**

**Докшыцы.**

## *Выстава «Кругаварот»*

У Віцебскім абласным навукова-метадычным цэнтры адкрылася выстава «Кругаварот», прымеркаваная да 110-й гадавіны народзінаў песняроў беларускіх Я. Купалы й Я. Коласа. Экспазіцыя, складзеная з прац народных умельцаў, прадстаўляе гадавы абег, кола жыцця беларуса ў асноўных абрадавых святах і штодзённай сялянскай рабоце.

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**




*Письма наших читателей*

# Защитим от необольшевизма наше будущее!

Взяться за перо меня вынудило то обстоятельство, что в подшивках витебской периодики, просмотренных мною, я не нашел ни слова о самой обездоленной категории людей—жертвах политрепрессий. И поэтому решил обратиться в газету.

Нас—оставшихся в живых и доживших до сегодняшнего дня—доля процента. А если быть более точным—тысячная доля процента по отношению к населению городов, таких как Витебск, Гомель, Минск...

В Минске, Гомеле, Бобруйске, Бресте созданы и функционируют ассоциации жертв политических репрессий. Они объединились в Белорусскую ассоциацию и избрали своих Президента и Вице-Президента. Ими стали профессор Георгий Васильевич Штыхов, работающий в Белорусской АН и Владимир Иванович Адамушко—молодой энергичный кандидат наук, работник архивного управления при Белорусской академии. В Витебске такой ассоциации нет. Своим опытом Гомельская ассоциация щедро поделится, окажет нужную помощь, но начните и вы святое дело, люди добрые, витебляне.

Зарегистрировавшись и получив статус юридического лица, открыв счет в банке, мы обратились к ряду малых предприятий и предпринимателей города и области, и они оказали нам денежную помощь.

Выделили средства и исполкомы областного и городского советов и перечислили их на наш банковский счет. Для проведения наших собраний Советский райисполком предоставляет нам свой конференц-зал, оказывает помощь и содействие. А сессия горсовета приняла решение, по которому приравняла нас по льготам к категории инвалидов войны.

Из наших денежных средств мы оказываем помощь членам ассоциации. Нам оказывается гуманитарная помощь.

Но мы не только просители и иждевенцы. Проводим большую работу по защите прав реабилитированных, оказываем конкретную помощь, когда нарушается законодательство, ущемляются права людей. Например, некоторые ретивые председатели колхозов не желают вернуть изъятое при репрессиях в натуре, а предлагают заменить это, с позволения сказать «компенсацией» в три—пять тысяч рублей. Что они стоят сейчас, эти пять тысяч?

Обязательно хочу дать разъяснение о компенсации в 160 рублей за каждый месяц отсидки.

Мы от этой подачки отказались и поставили этот вопрос перед уважаемыми С. С. Шушкевичем и В. Ф. Кебичем, перед Президентом и парламентом России на международной конференции «Сопротивление в ГУЛАГе» в Москве. Белорусский Верховный Совет пообещал рассмотреть этот вопрос на сессии и применить индексацию к тем 160 рублям относительно сегодняшнего курса рубля. Нам обещают. А вот дачу Дементею, которую сожгли умышленно, как утверждают «правоохранительные органы», приняли решение построить заново за наш с вами, уважаемые граждане Республики Беларусь, счет. Это же самый «бедный» человек нашей республики, как Рыжков в России. Впрочем, заметьте: оба Николая Ивановича в таком почете не за дела свои, а за должности. А дела их нам известны: ничего эти государственные мужи не сделали, чтобы спасти

(Окончание на 6-й стр.).

# Каму выгадна абвастрэнне?

Мінулым летам прыхільнікі «сацыялістычнага выбару» і адзінага Саюза запалохвалі народ голадам. Ім гэта было неабходна, каб апраўдаць увядзенне надзвычайнага становішча. Завяршэннем іх намаганняў быў няўдалы путч.

Голад не наступіў: далі зямлю. Праўда, далі няшмат і не ўсім жадаючым. Але нават гэтага было дастаткова, каб толькі на Віцебшчыне статак буйной рагатай жывёлы на асабістых падворках павялічыўся больш як на 10 тысяч.

Сёння голад, відаць, можа наступіць толькі тады, калі адбяруць усё, што далі, а калгаснікаў прыб'юць, як некалі Хрыста на крыж, цвікамі да калгасаў, што развальваюцца на вачах.

Але тыя, хто імкнецца павярнуць усё зноў назад, шукаюць іншыя аргументы. Зараз імі сталі беспрацоўе, якое насоўваецца як снежны ком, ды падзенне жыццёвага ўзроўню асноўнай часткі насельніцтва.

Адсутнасць у кіруючых колаў цэльнай канцэпцыі да пераходу к рынку, супярэчлівасць рыначным адносінам прымаемых Вярхоўным Саветам Беларусі законаў, незацікаўленасць мясцовых органаў кіравання ў правядзенні рэформаў прывялі да тупіка як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці.

А тут яшчэ штучнае, па загаду зверху, павышэнне цэнаў пры пануючым дзяржаўным сектары ў эканоміцы і адсутнасці законаў рынкавага характару яшчэ больш абвастрыла становішча.

Зніжэнне жыццёвага ўзроўню пры манапольнасці вытворчасці зрабіла незапатрабаванай рынкам нават неабходную грамадству прадукцыю.

У выніку ўсяго гэтага непазбежна зніжающца аб'ёмы вытворчасці, узнікае пагроза беспрацоўя.

Змарнаваных у пошуках працы людзей лёгка спакусіць на патрабаванне да вяртання ў мінулае, да аднаўлення Саюза, да ўвядзення «моцнай рукі». Ну, а хто лепш, як не партыя камуністаў, маючая ў гэтым вопыт, можа выканаць ролю гэтай рукі? Становіцца адразу бачным, каму выгадна абвастрэнне становішча, хто марудзіць і не прымае рынкавыя законы ў Вярхоўным Савеце, а калі і прымае, як гэта здаралася з законам аб прыватызацыі жылля, дык не на карысць большасці насельніцтва.

Кіраўніцтва Беларусі не імкнецца да ўсталявання сваёй дзяржаўнасці. Большасць з яго толькі робіць выгляд, што клапоціцца аб гэтым. А некаторыя адкрыта кажуць, што прызнаць дзяржаўнасць Беларусі вымусілі Вярхоўны Савет абставіны. Большасць яго сclaду сёння, калі зменяцца варункі, гатовы аднаўляць Саюз, адбудоўваць ваеннапрамысловы комплекс.

Толькі ці рэальна гэта?

Адну Малдову ў СНД зацягнуць па-сапраўднаму чаго варта! А каб аднавіць старую сістэму, каб яна працавала, як раней, неабходна будзе вярнуць Закаўказзе, Прыбалтыку, Украіну, усталяваць сацыялістычны лад ва Усходняй Еўропе, нават прыдзецца адарваць кавалак у Германіі.

Відаць, лепей і надзейней упарадкаваць свой дом—Беларусь. На сёння такія ўмовы існуюць. Больш як 440 тысяч жыхароў Беларусі патрабуюць правядзення рэферэндуму аб недаверы Вярхоўнаму Савету. Гэтыя патрабаванні прызнаны законнымі, і ён будзе праведзены.

Пры станоўчых выніках рэферэндуму паследуюць новыя выбары Вярхоўнага Савета на аснове новага, больш дэмакратычнага закона аб выбарах.

Ёсць магчымасць гэты непрацаздольны Савет замяніць на такі, які зможа стварыць Урад Народнага Даверу, дазволіць замяніць мясцовыя ўлады, абраць незалежныя, а не вызначаныя некалі партыйнымі органамі, суды. І ўсё гэта цывілізаваным шляхам і ў бліжэйшы тэрмін.

А пакуль гэта ж не зроблена, пакуль адсутнічае канцэпцыя пераходу да рынку, адсутнічаюць законы, напаўняючыя гэтую канцэпцыю, адсутнічае ўлада, здольная гэта рэалізаваць, каб пазбегнуць масавага беспрацоўя, абвастрэння становішча, няма іншага выйсця, як патрабаваць ад Урада Рэспублікі, адміністрацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў не праводзіць звальненні, выкліканыя скарачэннем вытворчасці.

**У. ПЛЕШЧАНКА.**

*Нам пішуць з замежжа*

# ЗВАРОТ

## IV КАНГРЭСУ КПН ДА ГРАМАДЗЯНСТВАЎ І ПАЛІТЫЧНЫХ СІЛАЎ ДЗЯРЖАЎ МІЖМОРА

**Konfederacja Polski Niepodległej**

Wydział Polityczny

Глыбокапаважанае Спадарства !

Дасылаем Вам "Зварот IУ Кангрэсу КПН да грамадзянстваў і палітычных сілаў дзяржаў Міжмора", які быў прыняты IУ Кангрэсам КПН у днях 28 - 29. 03. 1992.

IV Кангрэс Канферэнцыі Незалежнай Польшчы, найстарэйшай дэмакратычнай групоўкі ў нашай краіне, з пашанай і сяброўствам звяртаецца да грамадзянстваў, парламентаў, урадаў, а таксама да палітычных і грамадскіх груповак усіх дзяржаў нашай часткі Еўропы, якія знаходзяцца на захад ад этнічнай Расеі і на ўсход ад Заходнеэўрапейскай Супольнасці, гэта значыць у паласе, якую мы ў скарачэнні называем Міжморам.

Нашыя краіны і нашыя народы балюча кранула гісторыя. Апошнія некалькі сот, а асабліва некалькі дзесяткаў гадоў былі назначаныя генацыдам, палонам і бядой. Мы заплацілі страшэнную цану, якой адным з праяваў з'яўляецца вялікая дыспрапорцыя ўзроўню жыцця паміж нашымі краінамі і багатымі дзяржавамі Захаду. Нашыя грамадзянствы пазбаўленыя права да самастанаўлення, зняволеныя бязлітаснай ідэалогіяй, не маглі вырашаць сваіх праблем, ні поўнасцю ўдзельнічаць у цывілізаваным развіцці Еўропы. Цяпер надышла асноўная змена. Народы Міжмора атрымалі назад магчымасць вырашэння пра свае лёсы, адбудоўваюцца незалежныя і дэмакратычныя дзяржавы. Адчыніўся шанц радыкальнага паляпшэння нашага лёсу.

Сітуацыя з'яўляецца аднак вельмі цяжкой. Камунізм і маскоўскі імперыялізм спустошылі нашую частку Еўропы. Ва ўсіх дзяржавах Міжмора знішчаная эканоміка, разбураная сістэма праўлення, а грамадзянствы штораз больш упадаюць у роспач. Відаць вялікае супрацьўленне асяроддзяў, звязаных са старой уладай, укрдаваецца хаос. Дапамога Захаду ёсць малой, неяк спозненай і часта накіраванай не ў тым, што трэба, напрамку. Да гэтага даходзяць новыя пагрозы, узнікаюць новыя праблемы. Які вострыя могуць прымаць характар, паказваюць падзеі ў Югаславіі і над Днястром. Міжмора зрабілася паласой вялікіх нацыянальных і грамадскіх напружанняў, штораз больш шага крызісу ў эканоміцы і дэстабілізацыі.

Гэтыя ўсе трагічныя з'явы трэба пераадолець. З'яўляецца гэта асобным заданнем кожнага народу, які сам будзе вырашаць, якой дарогай ісці. З поўнай пашанай адносячыся да гэтай своеасаблівасці, мы павінны сабе ўзаемна дапамагаць. Злучыла нас не толькі геаграфія і гісторыя. Пасля развалу камуністычнай сістэмы і атрымання незалежнасці, мы сталі перад такімі самымі, або вельмі падобнымі праблемамі. Садзейнічанне ў іх рашэнні прынясе карысць усім. Узнікаюць новыя пагрозы, часта ажываюць старыя. Ці можам адказна выказаць меркаванне, што не адродзіцца маскоўскі гегеманізм? Ці не пападзём у эканамічную залежнасць ад больш багатых?

Дакладнае садзейнічанне ў гэтых праблемах дзяржаў і грамадзянстваў Міжмора будзе карысным для нас усіх. Нашая салідарнасць павінна абапірацца на глыбокім перакананні пра супольнасць нашых інтарэсаў.

У падобнай сітуацыі, як мы сёння, амаль што палову стагоддзя таму назад знаходзілася Заходняя Еўропа. Для яе паспяховым выхадам аказаліся эканамічнае супрацоўніцтва і палітычнае садзейнічанне. Ці гэтае вырашэнне не з'яўляецца для нас паказальнікам дарогі? Ці мы не павінны прыступіць да фарміравання падобным чынам прадуманай супольнасці Міжмора, якая будзе аб'ядноўваць асобныя і незалежныя дзяржавы, супольнасці, якая адначасова будзе ўмацоўваць самастойнасць паасобных народаў? Спалучаючы намаганні ўсіх нашых краін і не губляючы ўласнай своеасаблівасці, несумненна, хутчэй і лягчэй здабудзем месца, якое належыць нам сярод сучасных дзяржаў сённяшняга свету.

Супольнасць Міжмора не павінна накіроўвацца супраць каго-небудзь. Калі выключым з яе Расею, то толькі таму, што яе велізарны патэнцыял—дэмаграфічны, эканамічны і тэрытарыяльны—неяк нармальна мусіў бы дамінаваць у нашай паласе; баімся таксама таго, што гэтая вялікая дзяржава можа захацець вярнуцца на старыя, небяспечныя дарогі. Інтэграцыя нашай часткі кантытента не накіроўваецца супраць Заходняй Еўропы, а наадварот—залежыць нам на штораз больш дакладным супрацоўніцтве.

Інтэграцыя Міжмора, паскараючы цывілізацыйнае развіццё і павышаючы ўзровень заможнасці нашай паласы, з'яўляецца нічым іншым, як будовай другой апоры Еўропы, якая аб'ядноўваецца. Калі падымемся на ўзровень нашых заходніх суседзяў, узнікнуць умовы да аб'яднання ўсёй Еўропы.

Нехта можа сказаць, што лепш было б скараціць гэту дарогу і адразу прыступіць да будовы адзінай Еўропы. На жаль, сёння з'яўляецца гэта немагчымым. У цяперашнім часе заходнія краіны з нежаданнем выказваюцца пра поўную інтэграцыю. Інтэграцыя бедных краін з заможнымі выклікае вялікія антаганізмы; і тады яна замест спалучэння, дзеліць. Сёння можна б, што найбольш, гаварыць пра інтэграцыю з Заходняй Еўропай толькі некаторых, найбольш багатых, зонаў нашай паласы. Поўнае прымяненне такой праграмы не выраўнала б аднак нарастаючых дыспрапорцыяў у эканоміцы паміж добра квітнеючай эканомікай заходніх краінаў і знішчанай эканомікай дзяржаў посткамуністычнай сістэмы. У канчатковым эфекце магло б гэта давесці да новых падзелаў Еўропы. Узніклі б новыя, небяспечныя крыніцы напружанняў, а таксама моцныя антаганізмы паміж багатай Заходняй Супольнасцю і беднымі дзяржавамі Міжмора. Інтарэс нашай паласы з'яўляецца несумненна нечым больш важным, чым сума інтарэсаў паасобных зонаў і дзяржаў, якія ўтвараюць супольнасць Міжмора. Тады адзіным рэалістычным вырашэннем з'яўляецца абыходжанне з нашай паласой як з асобнай цэласнасцю і дзейнасць у яе карысць.

Настаў ужо час, каб задумацца над гэтым пытаннем. Усведамляючы сабе супольныя інтарэсы, якія нас аб'ядноўваюць, а таксама патрэбу салідарнасці дзяржаў і народаў Міжмора—прыступайма да супольных дзеянняў. Разам будзе нам лягчэй.

# Защитим от необольшевизма наше будущее!

(Окончание. Начало на 2-й стр.).

народ от обнищания, чтобы уничтожить коррупцию и преступность, предотвратить развал экономики. А им—большие пенсии.

А вот А. Н. Рудаковская, член Гомельской ассоциации, «раскулаченная» вместе с четырьма братьями-тружениками, сосланная в Коми республику, а потом водворенная без вины в зону, имеющая 94-летний возраст, получала социальную подачку в размере 35 рублей. Полтора года понадобилось нашей ассоциации, чтобы ей назначили все же минимальную пенсию, а не социальную помощь. Сколько нервов и крови это стоило?

А ведь и до сих пор не решил Верховный Совет вопрос о возврате Рудаковской нагло отнятого у ее семьи имущества, продуктов, скота, построек, компенсации за смерть ее братьев в зонах ГУЛАГа. Она не человек! А вот Дементей Николай Иванович!...

Так и живем. Кого же, какой народ защищают сегодня «народные избранники» в Верховном Совете из «Содружества Беларусь» типа Малофеевых-Камаев-Тихинь и прочих им подобных «защитников» народа... то бишь дементеев-рыжковых— слуг народных, «ума, чести и совести?» А ведь она, эта «совесть», перелицевалась из КПБ в ПКБ.

Не та ли это одежка, которую нам примеряли более семидесяти лет, только наизнанку?

Фашизм осужден—в Нюрнберге. Большевизм, как гидра, как Змей-Горыныч, отращивает новые головы на месте отрубленных. Но, будем надеяться, что это—не надолго.

Жизнь каждого—это обвинение большевизму и его продолжателям сегодня, это суровый приговор беззаконию и вандализму. В отличие от фашистов, большевики-ленинцы уничтожали своих людей, свои народы. Разумеется, не имею ввиду честных людей, бывших членов КПСС.

Целые народы репрессировались, изгонялись из своих, веками им принадлежавших, территорий, загонялись в концлагеря, в каторжные зоны, где гибли, как мухи, от непосильного труда и голода. Под каждой шпалой, под каждой кочкой в тундре, по всем трассам «коммунистических строек»—кости ни в чем неповинных людей.

Трупы людей плыли по северным рекам в Ледовитый океан, их сбрасывали в Охотское и Белое моря, записывая в формулярах причиной смерти грипп, насморк и прочую несуразицу...

Это было. Это не выдумки досужих газетчиков, это свидетельство еще живых, но чудом выживших людей. Они обличают большевизм, обличают советский тоталитаризм...

Вспомним Катынский лес и Харьков, а также Тверь и ее окрестности, где расстреляли тысячи польских офицеров. Вспомним Куропаты под Минском. А сейчас документально подтверждено и преступление в Мозыре, где расстреляно 2892 человека. Основная масса из них—простые белорусские полешуки. Когда нашли их останки, увидели на них домотканину и лыковые, не успевшие сгнить лапти. Две тысячи, а возможно и более, расстреляли прямо в Мозырской церкви, прямо под алтарем. Останки людей и до сих пор там. Часть этих останков, когда сооружали пристройку под архив, умудрились вывезти на свалку, а часть—в качестве чернозема в городской сквер. Есть живой свидетель—тракторист, который вывозил «удобрение» и «мусор» из былых людей. Решением облисполкома поручено исполкому Мозыря установить памятный знак и объявить церковь местом скорби по невинно убиенным. Мы настаиваем также на установке там мемориальных досок с поименным перечнем всех там казненных... Место скорби и памяти.

Это только упоминание о некоторых преступлениях большевизма, который возрождают снова новые вожди-ленинцы.

Минюст соизволил зарегистрировать наследников компартии, строящих всю свою деятельность на классовой основе. Во всем цивилизованном мире подобные партии вне закона.

Пересев из партийных в совминовские кресла и кресла облисполкомов, где для бывших «вождей» изобретают новые должности, партийная номенклатура, держа в своих руках всю экономику республики, продолжает править бал во всех сферах нашей жизни. Чего стоит тот факт, что г-н Малофеев сейчас занят в одной из экономических структур республики, думаю, и Камай всем доволен.—Ни одного «вождя» в безработные не значится.

Люди, которые не в состоянии разобраться в хитросплетении большевистской лжи и наглости, обвиняют в сегодняшнем хаосе демократические движения. Какой абсурд!

Люди, оглянитесь, внимательно всмотритесь в происходящее и присоедините свой голос к голосу оппозиции в Белорусском парламенте.

Сегодняшний состав парламента должен уйти в отставку. Должны быть новые выборы в профессиональный и малочисленный парламент.

Большевизм должен быть осужден так же, как был осужден фашизм в Нюрнберге.

В одной газетной публикации невозможно рассказать про все то, что выпало на долю людей нынешнего старшего поколения.

Большевизм проводил с первого дня октябрьского переворота человеконенавистническую политику, превратив народ в рабов или своих лакеев, готовых за место у «кормушки» уничтожить в прямом понимании этого слова себе подобных. Его обличает книга «Сопротивление в ГУЛАГе», имеющая подзаголовок «Воспоминания. Письма. Документы». И эти документы и свидетельства живых людей потрясают.

Былые узники ГУЛАГа и фашистских концлагерей! Во имя будущего, во имя жизни наших внуков и всех грядущих поколений, сплотим наши ряды, защитим от чумы необольшевизма наше будущее, не позволим проводить над нами новые необольшевистские эксперименты. Вспомним тысячи погибших, от которых остались сироты расстрелянных безвинно, с седыми головами в молодые годы. Это не должно повториться. Никогда!

Наша реабилитация, подтверждающая нашу полную невиновность, должна быть подтверждена конкрентными государственными законодательными актами. Но наследники большевизма, абсолютное большинство которых засело в Белорусском парламенте, пока с этим не спешат, отделываясь нищенскими подачками вместо полновесной компенсации наших мук и страданий, загубленных молодости и жизней, наших товарищей.

Защищать наши интересы не имеют права бывшие слуги большевизма.

Объединимся для защиты наших интересов и остатка жизни.

**Гомельская ассоциация жертв политических репрессий всегда будет надежным союзником витеблян. Обращайтесь к нам по адресу: 246014, г. Гомель, ул. М. Горького, дом 24, кв. 2, тел. 54-38-92. Председателю ассоциации жертв репрессий Нечаеву Ивану Кондратьевичу.**

И. НЕЧАЕВ.

# Заштормило на Юрьевой горке

В середине июня по инициативе наиболее напористой группы членов профкома в трудовом коллективе Витебского телецентра (ОРТПЦ) прошла профсоюзная конференция.

В результате многочасовой бурной дискуссии в адрес администрации областного производственного управления связи (ОПТУС) были выдвинуты требования о социальной защите работников.

На конференции была создана примирительная комиссия для рассмотрения возникшего коллективного спора. Переизбран профсоюзный комитет.

Не успели отгреметь баталии на конференции, как администрация ОРТПЦ решила на корню пресечь свободомыслие. 23 июня был издан приказ № 184, в котором наиболее активные сторонники требований А. Асипенок и В. Бабков предупреждены о недопустимости забастовки в органах связи.

Согласно этому же циркуляру вводится своеобразная информационная блокада. Например, определяется порядок хранения и использования множительной техники (очевидно, до конференции порядка в этом вопросе не было), назначаются ответственные лица за пользование служебными телефонами, на которых возлагается материальная ответственность в случае использования аппаратов в других целях, снимается параллельный телефон у техника по учету ЭВП.

Только помогут ли эти все меры решить наболевшие проблемы в трудовом коллективе?

Что показал дальнейший ход событий?

Созданная на конференции примирительная комиссия рассмотрела требования трудового коллектива ОРТПЦ и не пришла к соглашению. Настал черёд трудового арбитража.

Как стало известно редакции, трудовой арбитраж в принятом решении подчеркнул справедливость требований коллектива ОРТПЦ с точки зрения рыночной экономики. Однако указал, что они не могут в настоящее время быть удовлетворены, поскольку вступают в противоречие с действующим законодательством.

Жизнь оказалась впереди устаревших приказов и инструкций, которые мешают движению к рынку и должны быть отменены.

**Б. БОРИСОВ.**

# ПОСТРАШНЕЕ БЫЛИ ЛИХОЛЕТЬЯ,

## или О психологии «совков»

*Уважаемая редакция! Хочу излить душу. Действительно, цены растут и материальная жизнь людей идет под откос, особенно у низкооплачиваемых пенсионеров. И все же верю, что выживем. Народ в Беларуси видел и не такое. Пострашнее были лихолетья!*

*Пугает меня,что появились люди, особенно среди ветеранов, которые стали вспоминать, как им хорошо жилось при Сталине и при Брежневе, и как плохо стало сейчас.*

*Дорогие мои земляки, уже повидавшие жизнь! Оглянитесь и кое-что вспомните. Колбаса и мясо, конечно, дело важное. Но будет же когда-нибудь продуктов и товаров вдоволь, это в наших руках! Давайте для этого изберем в Верховный Совет и правительство истинно заинтересованных в улучшении жизни народа людей. Есть же такие, не оскудела еще Беларусь на разумных хлопцев.*

*Слушая вздохи и ахи по сталинщине и брежневщине, я вспомнил кое-что из своего прошлого. Вспомните и вы. Мне было 12 лет, когда мы, пацаны, повсеместно сдавали в утиль-сырье кости, кажется по 6 копеек за килограмм. Что мы тогда понимали? Ходили за Витебск в Княжицы, в Зайцево, под Лецты. Бродили по болотам и лесочкам и собирали эти кости... в траншеях и окопах, по полям. Все места обобрали вокруг города, сдавали эти кости (черепа брать заготовители отказывались) и покупали мороженое, пончики и т. д. И родители видели и поощряли. Как же, копейку детки несли в дом! И знали, конечно, как и мы, дети, что кости эти человеческие, кости защитников Родины, возможно и кости вражеских солдат. Сколько мы этих костей сдали? Невозможно посчитать.*

*Знали об этой чудовищной самодеятельной акции те, кто правил народом в столице и на местах. И никто не возразил. И что в этом удивительного? Психология страха. Несколько дней назад я прочел в «Труде» большой материал, в котором приводится плановая разнарядка уничтожения властями людей по областям. Такова была страшная действительность, прикрытая внешним благополучием в продуктовых и промтоварных магазинах.*

*Вспомним те времена. Мы, дети, сдавали косточки неизвестных солдат Красной Армии в утильсырье, а с какими почестями хоронили высокопоставленных ленинцев у Кремлевской Стены! И хоронили постоянно.*

*И наши мозги забиты были до того раболепием, что редко кто удивлялся этому пиру во время чумы.*

*За что? За какие заслуги (а были же многие из тех, кого хоронили с почетом, преступниками) везли на артиллерийских лафетах останки выживших из ума государственных старцев!*

*Слова «никто не забыт, ничто не забыто» были демагогией.*

*Для похорон «великих» на Красной площади приводились в действие все средства большевистской пропаганды, интервидение. А поиски истинных защитников страны, чьи кости еще засыпаны землей в траншеях и окопах, которые еще не были сданы в утильсырье, поручили... «красным следопытам». Павших на поле боя в СССР разыскивали дети и подростки, а не государство. Правительству об этом некогда было побеспокоиться. Верхушка КПСС думала о себе, в т. ч. и как лучше и пышнее похоронить себя на Красной площади!*

*Все, кто печалятся и стонут по изобилию колбасы в магазинах! Вы правы, что жить тяжело, но не забывайте, кто нами правил, кто обманул поколения! Кто заставил нас, малолеток, сдавать кости погибших в утильсырье. Мы сдавали этот страшный товар, вовсе не подозревая о своем кощунстве, об отсутствии в наших сердцах гуманного отношения к человеку.*

*Правду говорят, что породу «совков» культивировали, воспитывали гармонично развитых людей только на словах, а по сути — лицемеров и беспамятных.*

*Чему же нынче удивляться? Теперь понятно, почему так называемая великая дружба народов СССР обернулась событиями в Карабахе, в Южной Осетии и в Приднестровье? А чем же она еще для нас обернется?*

**К. МАЛЯРОВ.**
**гор. Витебск.**

# КАКАЯ ПЕРЕПРАВА — ТАКИЕ И КОНИ

**(Окончание. Нач. на 3-й стр.).**

И кто-то поверит в очередной бред, что БНФ внедрил свою агентуру в партийные комитеты чтобы затем всех **их призвать** под знамена парламента.

Из всего сказанного напрашивается вывод, что пора заменять Верховный Совет. Однако наши оппоненты допускают одну лукавую оговорку. Да, говорят они, депутаты не выполняют своих предвыборных обещаний, **но менять их не стоит.** Надо дать им возможность поработать. И в конце добавляют фразу, ставшую притчей во языцех: коней на переправе не меняют.

И невдомек демагогам, что кони еле-еле доползли до переправы. И рывок через реку сделать не в состоянии. Как здесь не вспомнить известное изречение: рожденный ползать летать не может.

Так, какой же выход? Его предлагают демократы. Цивилизованный. Без вил и лопат. Без исторического выстрела «Авроры»: пойти всем нам на референдум, проголосовать за роспуск номенклатурного Верховного Совета. А затем в спокойной обстановке определимся — какой политической силе, каким кандидатам отдадим свои голоса на выборах в новый народный парламент.

А пока тут и там появляются демагоги-фокусники и пытаются выдать черное за белое.

Обманывали народ номенклатурщики множество раз. И все на одной и той основе: сочувствовали обиженным и обездоленным, «спасали» интересы рабочих и крестьян.

Доспасались! Номенклатурный Верховный Совет, правительство Республики по-прежнему далеки от коренных экономических реформ, не могут ничего противопоставить гиперинфляции и действительному обнищанию народа. А демагоги подпевают, уж очень им выгодно оставить своих людей у номенклатурной власти!

**Борис ХАМАЙДА.**




*Наша история*

Сколько лет мы «добровольно» ходили в колоннах (гор. Витебск, 1969 год).

# Задзьвіньне — у спіс помнікаў ЮНЕСКА

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі, Камісія па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны**

**сп. Алегу ТРУСАВУ, Нілу ГІЛЕВІЧУ**

Нягледзячы на вялікія разбурэньні помнікаў за часы існаваньня бальшавіцкага рэжыму ў Віцебску, горад яшчэ мае добрыя перспектывы аднаўлення цэлых гістарычных кварталаў.

Асаблівую каштоўнасьць мае добра захаваны раён забудовы канца XIX—пачатку XX ст. ст. Задзьвіньня (вул. Рэвалюцыйная, Пакроўская і навакольныя). У сувязі з тым, што па вуліцы Пакроўскай знаходзіцца дом Марка Шагала (№ 11), аднаўленьне дадзенага прадмесьця набывае сусьветнае значэньне. У сьвеце зацікаўленьня творчасьцю згаданага мастака на Беларусь кладзецца вельмі адказная задача: захаваць аўтэнтычны гарадзкі асяродак гэтага прадмесьця.

На вялікі жаль да сёньня няма канцэптуальна выверанага рашэньня па аднаўленьні Задзьвіньня. Больш таго, распачатыя будаўнічыя работы ў дамах па вуліцы Рэвалюцыйнай нячыста зьмятаюць адметныя рысы ўнутраных дворыкаў, інтэр'еры будынкаў, зьмяняюць старажытную планіроўку вуліцы.

У сувязі з вышэйвыкладзеным просім парупіцца пра наступнае:

1. Зрабіць захады дзеля распрацоўкі праекту аднаўленьня прадмесьця Задзьвіньне як каштоўнага помніка горадабудаўніцтва.
2. Спыніць некваліфікаваныя будаўнічыя работы ў згаданым прадмесьці.
3. Надаць прадмесьцю статус дзяржаўнага запаведніка.
4. Выйсьці з прапановай аб унясеньні дадзенага помніка ў сьпісы ЮНЕСКА як сусьветна значнага.

**Камісія па культуры Віцебскай Рады БНФ «Адраджэньне».**

*Рытарычнае пытанне*

# Як жа гэта—музей майстру, а не герою?

**Правядзенне грандыёзных музычных святаў у нашым горадзе заўсёды выклікае ў мяне сумны ўспамін пра нявдзейсную спробу стварыць музей вядомага майстра Максімава Фёдара Лазаравіча.**

Напярэдадні першага фестывалю польскай песні ён атрымаў першую прапанову ад уладаў пераехаць са свайго цеснага пакойчыка, у тры ярусы застаўленага творамі, так што няма куды ступіць не толькі наведвальнікам, а і самаму гаспадару, у гарадскі асабняк. Праўда, да ажыццяўлення гэтай ідэі справа не дайшла, хоць афіцыйныя госці па-ранейшаму прыходзілі да майстра і, шчыра здзіўляючыся яго таленавітасці і апантанасці, абяцалі ўсё ж такі нешта зрабіць.

У еўрапейскіх старажытных гарадах натуральна захаваліся цэлыя вуліцы майстроў, першыя паверхі якіх функцыянуюць як мастацкія атэлье, а іх гаспадары месцяцца на другім паверсе. Выглядае ўсё гэта вельмі прыстойна і прыносіць гораду немалыя грошы ад натоўпу турыстаў. Жывуць на гэтых вуліцах сем'і патомных майстроў, якія пакідаюць сваім нашчадкам у спадчыну не толькі дом і маёмасць, а і рамяство, традыцыю, мастацкія каштоўнасці, якія маюць агульнанацыянальны сэнс. Такім чынам зберагаецца і множыцца культурная спадчына натуральна, без «казённай» бяздушнай апекі. Творы мастацтва не знікаюць у сховішчах гаспадарча-бездапаможных (хозяйственно-беспомощных) музеяў, а жывуць у людскім асяроддзі і інспіруюць развіццё творчасці ў грамадстве.

У нас, на жаль, гэтая мадэль музея была проста немагчымая, бо сутнасць яе: уласная маёмасць аўтара на свае творы. У нас, калі мастак і зробіць нешта геніяльнае, ён абавязкова павінен падараваць гэта дзяржаве. А што зробіць дзяржава з яго творам, ужо не яго справа. І таму на сённяшні дзень вырашаецца пытанне па стварэнню музея Ф. Л. Максімава. Няздольныя нашы ўлады асэнсаваць, што майстар мае права ставіць умовы перадачы сваіх твораў у агульнае карыстанне. Для носьбіта былога, але яшчэ вельмі трывалага комплексу калектывісцкай свядомасці не зразумела, як можна стварыць музей Майстру, а не Герою Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы, прычым пры яго жыцці. І чаму майстар замест удзячнасці не жадае адпісаць усё цалкам незнаёмым людзям, а імкнецца перадаць свае творы сваім унукам, каб яны зберагалі іх. І чаму менавіта гэты ўнук, а не паважаны дырэктар музея будзе жыць і працаваць у гэтым самым музеі.

Меней за ўсё хацелася б, каб гэтыя нататкі ўспрымаліся як рытарычнае пытанне, якое не патрабуе адказу гадоў, таму на фоне перабудовачнай дэмагогіі ідэя стварэння музея Ф. Л. Максімава выглядала сведчаннем дэмакратычных зрухаў. Зараз прыйшоў час здзейсніць абяцанае, і не ў палітычных мэтах, а дзеля вяртання ў рэальны свет прававых і эканамічных суадносін у грамадстве.

**М. ГЕРАСІМАВА.**



На здымку: Ф. Л. Максімаў у сваім пакоі.

Фота Ю. Раброва.

*Что волнует общественность*

# Дело будет направлено в суд?

**Более пяти месяцев прошло со дня гибели от спецназовских дубинок студента II курса Витебского медицинского института Александра Баранова.**

Трагический случай взволновал общественность города. Дело приняло общественно-политическую окраску. Не случайно оно взято на контроль Генеральным Прокурором Республики Беларусь. По его поручению на протяжении этих месяцев следствие ведет следователь по особо важным делам Александр Федорович Россолько.

Поскольку предполагаемые сроки расследования данного дела истекли, затянувшееся ожидание начало перерастать в напряжение у всех тех, кто заинтересован в торжестве справедливости.

Отсутствием какой-либо информации были обеспокоены сокурсники Саши Баранова. Поэтому вполне логичной выглядела их письменная просьба в адрес прокуратуры республики и области дать исчерпывающие разъяснения по данному делу.

В конце июня в актовом зале мединститута состоялась встреча преподавателей и студентов со следователем по особо важным делам А. Россолько.

Александр Федорович сразу предупредил аудиторию, что информация будет только общего плана. На вопросы, касающиеся конкретных деталей дела, он отвечать не будет, поскольку расследование еще не окончено.

**Далее он сообщил, что помимо факта смерти Баранова А. А., по делу расследуются и другие случаи применения сотрудниками спецназа резиновых дубинок,** это дело уже разрослось до семи томов. Генеральный Прокурор продлил срок расследования до 30 августа сего года. Следователь предполагает закончить свою работу к началу сентября.

Затем были заданы многочисленные вопросы.

В ходе беседы следователь неоднократно говорил о пассивности жителей нашего города. Очевидно, есть люди, которым известны обстоятельства, связанные с убийством Баранова, и другие случаи незаконного применения дубинок. Все знают, что прокуратурой ведется по этому поводу следствие, но никто не спешит прийти и рассказать о том, что знает.

**В номере нашей газеты от 7 мая 1992 года мы сообщили об известном нам случае нанесения Багрецом в декабре 1991 года в ресторане «Ветразь» удара дубинкой девушке в белой одежде.**

**Насколько известно редакции, эту девушку ищет следователь. Если она или кто-то из ее знакомых прочтут эту заметку, пусть обратятся в редакцию или сразу в прокуратуру.**

Для всех, кому это может понадобиться, сообщаем, что рабочее место следователя Россолько в прокуратуре области по улице Жесткова, **14-А, кабинет 8**, телефон **5-82-15**.

Б. БОРИСОВ

г. Витебск.

*Чынная выстава*

У выставачнай зале (Маскоўскі пр., 5) чынная выстава майстроў-мастакоў мужа й жонкі Арцёмавых. Цудоўныя працы па шклу, крышталю ўражваюць і здзіўляюць не толькі сваёй пекнасцю, а і фантазіяй стваральнікаў. Вось да прыкладу сціслае апісанне толькі аднае іранічна-трагічнай кампазіцыі «Садружнасць»: адна на адной і побач—рознакаляровыя (і рознавялікія) марскія міны.

Канешне ж, тэматыкай нашых праблемаў Арцёмавы не абмяжоўваюцца. Яны зрабілі ўзнагароды «Славянскага кірмашу». І між іншым, сярод іх персанальныя прызы найлепшым, на думку Арцёмавых, выканаўцам-канкурсантам.

**Юрась СЦЯПАНАЎ.**

# РАЗДУМЬЯ НА ПОГОСТЕ

Часто ли мы бываем на кладбищах, где похоронены наши близкие? Одни могилы обветшали, сровнялись с землёй, и только покосившийся камень или трухлявый обвалившийся крест напоминает о последнем пристанище человека. Другие, наоборот, украшены огромными глыбами-памятниками, с фотографиями и эпитафиями, оградами и скамейками для поминовения. Что лучше?

Негоже забывать людей, честно живших и честно умерших. Приди и поправь могилку, пусть ты и не знал ее хозяина—все мы одного рода-племени—человеческого. Но и отходить от простоты матери-природы не нужно. К чему эти памятники, фамильные склепы и кремлевские стены? Так хочется спросить усопших: не давит ли на грудь вся эта громада? Душа должна оставаться на свободе, среди простора и белорусских березок.

Откуда в человеке жестокость? Почему мы, люди, убиваем друг друга, почему любим власть над другими? Почему даже мертвым порой не даем покоя, залезая в их могилы, надеясь поживиться золотыми коронками? Нет в людях страха, простого человеческого страха за содеянное. Мы считаем, что за смертью физической наступает пустота... А ведь это только Начало, Начало Пути. И Великая Мать-Природа только испытывает нас—на что мы достойны в будущем: кому великие дела, а кому—и вечное гниение.

Приди на родную материнскую могилку, приглядись к простым обветшалым надгробьям... И задумайся: ты не вечен, в этом мире мы только гости. А где же начало и где конец пути? И где придется нести ответ за все содеянное на Земле?

**В. БЕЛОУС.**
**г. п. Руба.**

Наступны нумар газеты выйдзе 12 жніўня 1992 г.

Выбар

УЧРЕДИТЕЛЬ: Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».

Главный редактор
Леонид ЦВИКА

Художник Г. Кликушин.
Фотографии М. Михайлова.
Адрес редакции: 210601, г. Витебск, ул. Гоголя, 17, тел. 37-35-06, 37-28-44.



Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Виткомбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.

Полиграфисты: В. Корунас, Л. Волкова, З. Новолоцкая, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский.

Номер подписан к печати 21.07.1992 г. в 17.15.
Зак. 30 41 Тираж 2500.

Цена 80 коп.